№ 26 (142). Вільня, 30 Сьнежня 1938 г. Год X.




# 10 год літаратурнае творчасьці Міхася Машары

*(1928 — 1938)*

Шырака ведамы, популярны паэт, наш супрацоўнік Міхась Машара дзесяць год таму седзячы ў вастрозе, у Вільні на Лукішках, у сувязі із справай «Грамады», глыбока думаў над сабой, над жыцьцём, над акружаючым сьветам, над лёсам Беларускага Народу і тут пазнаў сябе, як паэта, выкрыў у сабе літаратурныя здольнасьці. З таго часу пачаў пісаць вершы і большыя творы. Першы зборнічак ягоных вершаў «Малюнкі» выйшаў з друку ў гэным-жа 1928 годзе. Сёлета такім чынам мінула дзесяць год літаратурнае творчасьці нашага паэта.

Машара — плодны, творчы талент. Міма няспрыяючых жыцьцёвых абставінаў, будучы ў беднасьці, заўсёды ў варунках пастаяннай барацьбы за штодзенны кавалак чорнага хлеба, за дзесяць год сваей літаратурнае працы напісаў адносна многа твораў. Вершы ягоныя лікам больш двух соцен надрукаваны ў зборніках, апроч успомненых «Малюнкаў», такіх: «На сонечны бераг», «На прадвесьні», «З пад стрэх саламяных»(сканфіскаваны); асобнымі выданьнямі вышлі з друку ягоныя паэмкі: «Сьмерць Кастуся Каліноўскага», «Вясельле», «Мамчына Горка» — першая, на тэму гістарычную, апісывае героіку змаганьня за лепшую долю Беларусі нашага слаўнага героя з дзевятнаццатага стагодзьдзя, Кастуся Каліноўскага, дзьве іншыя аснаваныя на беларускім фольклёры. Із сцэнічных твораў вышлі з друку «Лёгкі хлеб», «Чорт з пад печча». Шкада, што ў лепшым для беларускага друку часе ня выданы асобна лірычныя, вельмі мастацкія паэмкі паэта — «Валачобнае», «Радаўніца» (абедзьве надрукаваны ў часапісе «Нёман», 1932 г.).


Міхась Машара

Машара — паэт-грамадзянін, шчыры беларускі патрыёт, чалавек добрага сэрца і гуманітарызму. Творчасьць ягоная перасычаная грамадзкім элемэнтам, галоўнае нацыянальнымі і социяльнымі матывамі. Чулая, лірычная, багата абдараная душа паэта чуе пульс міліоннага беларускага народу, паэт жыве народнай справай і пхае яе на «сонечны бераг».

Шчыры, гарачы беларускі патрыётызм, любоў роднага краю, вёскі, нязломная вера ў адраджэньне Беларускага Народу і ягоную сілу, нейкі асаблівы культ беларускай адраджэнскай справы, любоў беларускае прыроды — вось галоўныя адзнакі нацыянальнай стараны творчасьці Машары, патрыётычнай лірыкі паэта. Побач з гэтым Машара выражае ў творчасьці сваей шчырую любоў да чалавека працы, да працоўнага мазаля, да «пакрыўджаных і лішніх», першым чынам да працоўнай беларускай вёскі, якой паэт зьяўляецца верным сынам.

І ня толькі паэт любіць чалавека працы. Ён любіць усіх:

„Ціхай радасьцю сьвет я кахаю,
маткі праўды цалую сьляды".
(„На сонечн. бераг",бач. 44).

„Я і так сваю сьцежку адзначу
шчырай верай у сьвет і дабро".
(Тамжа.)

Асновамі грамадзкай этыкі для паэта зьяўляецца хрысьціянская навука:

„Яшчэ здаўна у браце брата
казаў нам бачыць добры Бог".
(„Падарожжа"—„Калосьсе", кніжка 1, 1936, бач. 12).

Імкненьне да социяльнай роўнасьці і справядлівасьці, да палепшаньня быту працоўных — вось социяльна-этычная тэндэнцыя нашага песьняра.

Грамадзкі элемэнт, апрача

не хараства беларускай прыроды — бо-ж у паэта:

„Яшчэ змалку душу ураклі,
навялі чары песень і сноў
васількі, васількі, васількі,
дзеці любыя родных палёў".
(„На сонечн. бераг", бач.65).—

крыху лірыкі каханьня, крыху рэфлексыі над рознымі зьявамі жыцьця — вось тэматыка творчасьці нашага паэта, вось зьмест гэтай творчасьці.

Характэрным для псыхолёгіі нашага песьняра, для творчай ягонай душы, для беларускай літаратуры, ёсьць тое, што творства, лірыка паэта вытрымана ў бадзёрых, радасных, оптымістычных тонах. Крыніцы радасьці, оптымізму паэта знаходзяцца ў веры ў адраджэньне Беларускага Народу, а таксама ў хараstве беларускай прыроды.

Праўда, хоць рэдка, але спатыкаем у Машары зьявішчы, калі на ягоныя «вясёлыя песьні паклаў нехта сум», калі замест свае песьні «купаць у сонцы» «і пра сонца пяяць заўсяды» сум агартае сэрца і душу песьняра. Таксама, як крыніцамі оптымізму зьяўляюцца грамадзкія справы і прырода — галоўным чынам гэтыя самыя дзейнікі выклікаюць і сум у паэта.

Із мастацкага боку, творства нашага песьняра прадстаўляецца розна. Ёсьць творы высокай мастацкай вартасьці, асабліва шматлікія вершы прыродаапісальныя і на тэму вёскі, нікаторыя творы абаснаваныя на беларускім народным фольклёры,— даюць яны апроч ідэовых эмоцыяў эстэтычныя перажываньні, але ёсьць такжа і слабейшыя, асабліва дзеля сваей плякатнасьці і некаторых компазыцыйных і тэхнічных недахопаў. Дзеля таго на гэтыя рэчы трэба было-б паэту зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Адзначаючы гэтым скромным артыкулам 10-ці-гадовы юбілей творства Міхася Машары, зычым Паважанаму Юбіляру і Дарагому нашаму Супрацоўніку доўгіх, радасных гадоў жыцьця,— дачакацца той сонечнай пары для нашага працоўнага народу, якой служа ягоная звонкая ліра. Адначасна зычым Яму далейшага разьвіцьця свайго творчага таленту і ўзбагачэньня нашай мастацкай літаратуры новымі творамі.

Я. Ш.



# 350-я ЎГОДКІ ТРЭЦЯГА ЛІТОЎСКАГА СТАТУТУ

*(1588—1938)*

У невясёлым цяперашнім беларускім жыцьці прыемна сапраўды заглянуць у беларускую гісторыю і прыпомніць сабе сьветлыя часіны нашага Краю мастойным, гаспадарственным жыцьцём, а пасьля супольна з Літоўцамі ў Вялікім Княстве Беларуска Літоўскім разьвівалі сваю культуру ўва ўсіх галінах. Уста-



Ѿнаяснешого гдрѧ корола Его млсти
Жикгимонта третего накоронацыи
въкракове выданы; рокꙋ
а ф пи.





Друковано [illegible]

вдрукарни домꙋ Мамоничовъ.

З ласки и привильѧ корола его мл̃сти



**Першая тытуловая бачына слаўнага Літоўскага Статуту.**

і нашае беларускае культуры. Сёлета прычынай да гэтага служыць між іншым юбілей—350-цігодзьдзе— слаўнага Трэцяга Літоўскага Статуту, каторым беларусы могуць гардзіцца, як вялікай памяткай свае юрыдычнае літаратуры.

Беларусы жывучы сваім самаўляліся так-жа беларускія законы. Пры тым ад часоў Вялікага Князя Вітаўта (1392—1430) ўвайшоў у жыцьцё звычай, што князь кіруючы краем прыракаў захаваць ягоныя даўнейшыя правы, а так жа часта устанаўляў новыя. Правы гэтыя, якімі кіравалася В. Княства Літ.-Белaрус-

кае для практычнага карыстаньня былі мала даступныя. Дзеля таго стараньнем літоўска-беларускае шляхты быў апрацаваны кодэкс права, названы Літоўскім Статутам, прыняты 17(30) лістапада 1529 г. Віленскім Соймам і названы пасьля першым або старым статутам. Назова статуту „літоўскі" ёсьць гістарычна-палітычнай. У гэны час усе беларуска-літоўскія землі звaліся Вялікім Князствам Літоўскім. Прадстаўнікамі найвышэйшае ўлады В. Князства Літ.-Беларускага былі літоўскія князі, каторыя аднак падпаліся ўплывам беларускае культуры і гаварылі пераважна пабеларуску. І ўвесь Літоўскі Статут быў напісаны ў тагочаснай беларускай мове.

Статут з 1529 г., хоць бараніў перад усім правоў шляхты і яе інтарэсаў, аднак не задаволіў яе. Беларуская і літоўская шляхта бачачы вялікія прывілеі шляхты ў Польшчы, з каторай Вялікае Літ.-Бел. Князства было ўжо ў цеснай лучнасьці, дамагалася сабе што-раз большых правоў і зьмены Статуту, што і было зроблена на соймах у 1564-65-66 гадох. Такім чынам у 1566 г. аканчальна паўстаў другі Літоўскі Статут.

Пад напорам Палякоў прыгатаўляліся папраўкі і да другога Статуту. Ішло ім аб тое, каб у Статут увесьці зьмены, вынікаючыя з Люблінскае Уніі(1569г.), каторая найбольш прычынілася да ўпадку незалежнасьці Вялікага Беларуска-Літоўскага Князства і далучала яго да Польшчы. Ня гледзячы на гэта, Канцлер В. Князства Літ.-Беларускага Леў Сапега, баронячы незалежнасьці свайго гаспадарства, апрацоўваючы і выдаючы ў 1588 годзе Трэці Літоўскі Статут, аб Люблінскай Уніі нават ня ўспомніў.

Літоўскі Статут, на той час, быў высокім культурным здабыткам, з якога карысталі ня толькі Беларусы, Літоўцы, але Палякі і Расейцы, укладаючы сваё законадаўства. Статут гэты зьмяшчаў усе аснаўныя правы, каторымі кіравалася Вялікае Князства (ўсяго 487 артыкулаў). Аснованы-ж ён на тагочасным беларускім звычаёвым праве. Ёсьць так-жа ў ім ўплывы старадаўнага рымскага права.

Першы раз надрукаваны быў Трэці Літоўскі Статут пабеларуску ў 1588 г. у Вільні, у друкарні Мамонічаў. Пасьля ў 1614 г. быў ён перакладзены на польскую мову і выданы папольску. У 1649 г. Расейцы ўкладаючы зборнік сваіх законаў, г. зв. „Уложеніе" цара Аляксея Міхайлавіча жыўцом бралі сабе сотні артыкулаў і беларускіх праўных тэрмінаў з беларускага Статуту. І то, як сьцьвярджае расейскі прафэсар М. Д'яконов—„образец оказался много выше снимка."

Усё гэта сьведчыць аб тым, якую прыгожую мінуўшчыну мае наш Беларускі Народ і якую ролю адыйгралі Беларусы ў будаўніцтве культуры Усходняе Эўропы. Высокая культурная дзейнасьць Беларусаў у мінуўшчыне ёсьць найлепшым задаткам нашае лепшае будучыні.

**Я. Н.**

# *Маладым*

*Пяіце, пяіце!*
*Крылатае слова*
*Хай вечна жыве і лунае у нас!*
*Няпраўда!*
*што мы да жыцьця не гатовы,*
*Няпраўда, што творчы парыў наш загас!*

*Няхай навальніца шалее над сьветам —*
*Гатовы спаткаць мы*
*разгон увесь бур.*
*Няпраўда, што нельга быць сяньня паэтам,*
*Няпраўда,*
*што словам разьбіць нельга мур.*

*Ні гора,...*
*ні хмары,...*
*ні шэрая ява,*
*Ня згасяць натхнёнага слова прылiў,*
*Ня знаем карысьці...*
*пяём — не для славы—*
*Мы збуджаных вёсак*
*жыцьцёвы прыліў.*

14.XII.1938. *М. МАШАРА.*

## Ад 15.XII.38 да 15.I.39—месяц беларускае прэсы

Арганізаваны Рэдакцыйнай Калегіяй „Шляху Моладзі" ад 15.XII. 1938 да 15.I.1939 г. месяц беларускае прэсы знайшоў ужо даволі шырокі водгук. Да нашага заклiку далучыліся рэдакцыі наступных беларускіх часапісаў: „Самапомач",Хрысьціянская Думка" і „Калосьсе". З вёскі-ж надходзіць цэлы рад пісьмаў з просьбай прысылаць „Шлях Моладзі" ў большай колькасьці дзеля прапаганды, за якую горача бярэцца беларускі маладняк. Гэткім спосабам пачата вельмі карысная і патрэбная праца —Пашыраючы беларускую прэсу, трэба адначасна ўсьведамляць людзей аб тым, што чытаць і выпісваць беларускія часапісы—гэта законная справа і што ніхто ня мае права за гэта караць падпісчыкаў. Таксама важнай справай ёсьць усьведамленьне кожнага чытача, што за часапіс трэба абавязкава і акуратна плаціць падпіску, бо толькі падпіска стаўляе часапіс на цьвёрдыя ногі і тады ён можа належна працаваць, разьвівацца і спаўняць сваю культурную і інфармацыйную ролю. У сувязі з гэтым усіх даўжнікоў „Шляху Моладзі" за падпіску просім як найхутчэй заплаціць свае даўгі, а так-жа ўсіх ветліва просім прысылаць падпіску за „Шлях Моладзі" на 1939 г., далучанымі да гэтага нумару „пшэказамі разрахункобымі".

*Рэд.*

# Дамагаймася беларускае мовы ў школах

## Новае распараджэньне аб школьніцтве для нацыянальных меншасьцяў

У роднай мове людзям ня толькі найлягчэй і найпрыямней паразумевацца, але так-жа і вучыцца. Дзеля таго кожны народ стараецца, каб асьвета злабывалася ў роднай мове. За гэта бароўся і гэтага дамагаўся і Беларускі Народ. Гэтага так-жа дамагаліся беларускія паслы ў польскім Сойме ад 1922 г. аж да таго часу, пакуль прадстаўлялі там Беларусаў.

Польскія школьныя ўлады, згодна з Канстытуцыяй, маючы на ўвеце дамаганьні нацыянальных меншасьцяў у галіне школьніцтва, у справе навучаньня ў школах выдалі 31.VII 1924 г. (Dz. Ust. Rz. P. № 79, 1924) закон, паводле якога ў валасьцях, дзе ёсьць 25 працэнтаў беларусаў, на жаданьне бацькоў 40 дзяцей беларускае нацыянальнасьці, якія належаць да аднаго школьнага вокругу, забясьпечаецца гэным дзецям навука ў роднай мове. Закон гэты абавязвае і сяньня. 7.I.1925 да закону гэнага было выдана выясьняючае распараджэньне Міністэрства Асьветы, паводле каторага дамагацца беларускае мовы ў школах можна было ў працягу цэлага году, з тым, што дэкларацыі на беларускую школу маглі мець сілу на наступны школьны год і толькі тыя, якія былі пададзены да 31.XII папярэдняга школьнага году. Вось-жа ў гэтай справе 25.XI.1938 Міністэрства Асьветы выдала новае распараджэньне (Dz. Ust. Rz. P. № 94 poz. 637), якое замяняе дасюлешняе распараджэньне з 7.I.1925. Цяпер, паводле новага распараджэньня, дэкларацыі на ўвядзеньне беларускае мовы ў дзяржаўных пачаткавых школах можна падаваць толькі ў месяцы лістападзе і то толькі ў адносінах да тых школаў, у каторых ад часу, як набрала праўнае сілы апошняе рашэньне (пастанова) аб мове навучаньня, мінула 7 гадоў. Калі-ж мінула 7 гадоў і беларускія бацькі ў м-цы лістападзе не падалі школьных дэкларацыяў, дык наступны раз падаваць іх можна будзе толькі пасьля далейшых 7 гадоў у м-цы лістападзе.

Сёлета, дзеля таго што распараджэньне паявілася ў „Dzienniku Ustaw“ 2 сьнежня 1938, выняткова тэрмін падаваньня дэкларацыяў перасунуты з лістапада месяца на час: **ад 10 сьнежня 1938 г. да 10 студзеня 1939 г.**

Тэрмін гэты фактычна вельмі кароткі, аднак бацькі і апякуны беларускіх дзетак павінны яго выкарыстаць і зараз-жа складаць дэкларацыі дамагаючыся ўвядзеньня беларускае выкладовае мовы ў школах дзе вучацца беларускія дзеці.

Увядзеньня ў школы, беларускае мовы дамагацца можна ў наступных ваяводзтвах: Віленскім, Наваградзкім і Палескім, а так-жа ў паветах: Горадзенскім і Ваўкавыскім Беластоцкага ваяводзтва.

Падаваць і падпісваць дэкларацыі на беларускую мову могуць і павінны тыя бацькі (або матка, калі бацька ня жыве і праўныя апякуны) каторыя маюць дзяцей у школьным веку, г. зн. ад 7 да 14 гадоў, ня гледзячы на тое, ці дзеці ходзяць у школу ці не.

Школьная дэкларацыя павінна быць гэткага зьместу:

### Дэкларацыя

Я ніжэй падпісаны (ая) *Ігнат Дубовік,* грамадзянін Рэчыпаспалітай Польскай, беларускай нацыянальнасьці, жыхар вёскі *Гароднікі, Карэліцкае* валасьці, *Наваградзкага* пав., як бацька, матка, праўны апякун дзяцей у школьным веку, а іменна: *(тут падаць імёны дзяцей),* на падставе закону з дня 31.VII.1924 г., які падае пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. Ust. Rz. P. № 79 poz. 766) выяўляю жаданьне, каб у публічнай пачаткавай школе ў *Гародніках* была ўведзеная: беларуская мова навучаньня. Дня 3 студзеня 1939 г.

*Уласнаручны подпіс Ігн. Дубавік*

**Да Школьнага Інспэктарату**

**У** ..............................

Выпаўніўшы такую дэкларацыю, падпісаць яе трэба ў прысутнасьці валаснога старшыні (войта), ці натаруса. або судзьдзі ці ў старастве. Войт подпіс гэты мусіць пасьведчыць дарма. Калі бацькі няпісьменныя, дык у валасьці ставяць на дэкларацыі ў прысутнасьці двух сьведкаў крыжыкі. Пры тым адзін з сьведкаў (мусяць быць яны пісьменныя) падпісвае за няпісьменнага і сябе, а другі сьведка падпісвае толькі за сябе. І гэтыя подпісы войт мае абавязак пацьвердзіць бясплатна. Калі-б войт адмаўляўся гэта рабіць, тады трэба складаць на яго скаргу у Старалства або ў ваяводзтва, або аж у Міністэрства Унутр. Спраў.

Падпісаныя і пацьверджаныя дэкларацыі трэба падаваць Школьнаму Інспэктару свайго вокругу.

Усім, каму дарагая справа асьветы беларускае моладзі, будучыня нашага Беларускага Народу, —трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на гэты закон і справу роднае мовы ў пачатковых школах.

З. Б.

---

## Зімою

*Зіма, зіма. Мароз... Завея...*
*Гуляе вецер за вакном.*
*І сьнегам сыпле, сьнегам вее,*
*Аж сьвет здаецца туманом.*

*У хаце холадна, маўкліва,*
*Па сьценах трэскае мароз.*
*І нудна, нудна, аж тужліва,*
*Чуцён за хатай шум бяроз.*

*Жанкі на прасьніцах з кудзеляй*
*Аб лепшай долі лятуцяць,*
*А калаўроты ашалела,*
*Рытмічна круцяцца, бурчаць.*

*А думак, думак так трывожных*
*І сумных—поўна галава...*
*І з імі многа падарожных —*
*Брыдуць да мэты, як і я...*

*Зіма, зіма. Мароз... Завея...*
*Ні зор, ні сонца ня відаць.*
*А ўсё-ж ў грудзёх гарыць надзея*
*Вясну і сонца прывітаць.*

ЯНКА БУНТАР.



## Ці помніш ты?

*Ці помніш ты,—той мілы вечар,*
*Калі заціх дуронік вецер?*
*Той майскі вечар — любы час,*
*Што кветкай рожай*
*цьвіў для нас?*
*Той мілы час, як мы з табою*
*Былі ў дваіх — душа з душою*
*І ахінаў нас клён густы...*
*А ў небе месяц залаты*
*Каціўся ціха над зямлёю,*
*Блішчэў над клёна галавою*
*І серабрыў яго лісты —*
*Ці помніш ты?*

М. РУДКО.



## Kancert, jakich treba bolš

Vialiki i słaŭny naš śpiavak Michał Zabejda-Sumicki zdabyvaje štoraz bolšuju papularnaść. Jahonyja kancerty ŭ Vilni stalisia niabyvała miłymi chvilinami, katorych šmatlikija pakłońniki Zabejdy čakajuć, jak vialikaha śviata. Dziela taho paśla vielmi ŭdałaha kancertu Zabejdy sioleta viasnoj, u zali b. kanservatoryi, paŭstaŭ plan sarhanizavać uvosieni dva kancerty adzin za druhim. Pieršy kancert uziałosia arhanizavać kancertnaje biuro S. Płaskova ŭ tej-ža zali b. kanservatoryi dnia 4.XII.38, a druhi na prośbu biełaruskich studentaŭ M. Zabejda-Sumicki zhadziŭsia dać na karyść niezamožnych bieł studentaŭ u universyteckaj zali Śniadeckich. Niavinny hety plan mima vialikich starańniaŭ arhanizataraŭ nia zmoh adnak być vykanany całkom, bo Vilenskaje Haradzkoje Starastva **nie dało dazvołu śpiavać** u zali kanservatoryi **biełaruskich i litoŭskich narodnych pieśniaŭ,** pradbačanych ŭ prahramie kancertu 4.XII.1938, a dazvalała Zabejdzie śpiavać tolki pieśni polskija i italijanskija. Z hetaje pryčyny kancert 4.XII. nie adbyŭsia. Mieŭ šmat kłopataŭ i Bieł. Studencki Sajuz, pakul dastaŭ ad svaich universyteckich uładaŭ dazvoł na kancert, jaki ładziŭ 10.XII.38 u zali Śniadeckich U kancercie hetym apráča M. Zabejdy-Sumickaha pryjmaŭ učaście chor Bieł. Studenckaha Sajuzu pad kiraŭnictvam hram. R. Šyrmy. Kancert prajšoŭ niezvyčajna ŭdała, jak u sensie artystyčnym, tak i arhanizacyjna-kasovym. Publiki hetulki pryjšło, što nie mahła navat pamiaścicca, choć zala davoli vialikaja. Bilety zahadzia ŭsie byli raspradanyja i šmat chto na kancert nia moh užo trapić.

Chor pad kiraŭnictvam R. Šyrmy hetym razam piajaŭ vielmi pryhožyja i pamastacku zharmanizavanyja biełaruskija narodnyja pieśni— viedamymi ukrainskimi kampazytarami: praf. Košycam i Hajvorońskym. Vykanańnie pieśniaŭ choram jak zaŭsiody było starannaje, što jość zasłuhaj hram. R. Šyrmy, jaki ŭžo 15 hadoŭ pracuje na biełaruskaj muzyčnaj nivie, uzbahačajučy biełaruskuju kulturu. Za cennuju hetuju pracu, za miłahučnyja pieśni prysutnyja daryli jaho buraj vopleskaŭ i kvietkami.

Pajaŭleńnie na scenie M. Zabejdy-Sumickaha prosta z'elektryzavała zalu. Entuzyjazm pryniaŭ niejki stychijny charaktar. I nia dziva. Pieśni ŭ jahonym vykanańni, asabliva pieśni biełaruskija, ulivajuć u dušu roskaš i zachapleńnie, katoraje trudna i apisać.



M. Zabejda-Sumicki

Pa tradycyi Zabejda prapiajaŭ napačatku niekalki pieśniaŭ italijanskich, polskich, a paśla dźvie litoŭskija, što było navinoj, i kala 10 pieśniaŭ biełaruskich, miž inšym dźvie pieśni vielmi pryhoža zharmanizavanyja viedamym kampazytaram praf. Kazuraj. Za biełaruskija pieśni mastak abdarany byŭ vialikim košykam žyvych krasak, prybranych u narodnyja tkaniny. Maleńkaja-ž dziaŭčynka biełaruska padajučy bukiet krasak vitała jaho vieršam M. Tanka specyjalna jamu pryśviečanym.

Treba skazać, što Zabejda ŭściaž raźvivajecca i raście. Jahonaje apošniaje vystupleńnie nia hledziačy na vialikaje pierapaŭnieńnie zali, stajała na najvyšej šaj stupieni i było mo' najbolš udałym z usich dahetulašnich jaho kancertaŭ u Vilni. Dyk i dzivicca nia treba, što paśla daŭhich bisaŭ moładź nasiła Zabejdu na rukach.

Na zakančeńnie astajecca pažadać, kab kancerty takija adbyvalisia čaściej. Bo-ž pieśnia ŭ tak mastackim vykanańni z niavinnym narodnym źmiestam hoić rany dušy, uspakajvaje nervy, daje vialikaje maralnaje zadavaleńnie i łučyć, abjednyvaje ludziej.

*j. n.*

## Balet „Jurje" na scenie vilenskaje „Lutni"

6 i 7 śniežnia 1938 h. ŭ vilenskim polskim teatry „Lutnia" vystupaŭ viedamy varšaŭski balet Taciany Vysockaj, katoraja ŭłažyła balet „Jurje"— asnavany na biełaruskich narodnych zvyčajach i tancach—i pakazvała jaho pieršy raz u Vilni. Karystajučy z hetaha, naviazali my hutarku z p. T. Vysockaj z metaj daviedacca krychu bolš ab balecie „Jurje", ab katorym užo pisali ŭ № 16 „Šl. Moł.", kali byŭ jon pakazyvany na varšaŭskich scenach,

Hałoŭna cikaviła nas, jak paŭstała dumka stvareńnia baletu „Jurje" i ci nia była jana vyklikana mamentami nacyjanalna-biełaruskimi, bo p. T. Vysockaja pachodzić z našaha kraju (z Staŭpieckaha pav.). Vyraznaha adnak adkazu nie ŭdałosia pačuć. Z taho-ž, što čuli, vynikaje, što tvoračy balet „Jurje" p. T. V. chacieła stvaryć niešta novaje, aryhinalnaje i pryhožaje, tym bolš, što biełaruskija narodnyja tancy vielmi lubić i ŭvažaje vielmi pryhožymi, h. zn. što kiravałasia jana pieradusim matyvami čysta mastackimi.

I treba pryznać, što balet „Jurje" aryhinalny i pryhožy. Možna, peŭna-ž, zrabić tyja ci inšyja ŭvahi adnosna vykanańnia biełaruskich narodnych tancaŭ „Lavonichi" ci „Jurački", ale ahułam balet hety treba pryvitać.

— Dziŭna — kazała p. T. V.— što vilenskaja polskaja presa pryniała balet „Jurje" vielmi zimna, navat niaprychilna, tady, kali na scenach u inšych miestach ciešycca jon vialikaj papularnaściu.

Faktyčna polskija vil. hazety da „Jurja" zaniali niezasłužana varožaje stanovišča. I dumajem, što presie hetaj chadziła nie ab niedachopy ŭ „Jurji", ale tak jaho zhanić, kab bolš nie mahło pajaŭlacca ŭ Vilni. Bo i jak-ža-ž heta, kab u „Lutni" razlahalisia sa sceny nia tolki melodyi biełaruskich tancaŭ, ale i biełaruskija słovy i pieśni biełaruskija, nu i tancy „Lavonicha" ci „Juračka"?...

Charakterna, što taja-ž presa ab kancertach biełaruskaje pieśni (Zabejdy, Choru Šyrmy), jakim z boku mastackaha nielha ničoha zakinuć, zusim ni piša... *jn.*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi" — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

# Zbiełaruskaha žyćcia

## Vysialeńnie biełaruskich dziejačoŭ

15.XII siol. atrymali zahad Vilenskaha Vajavody vysielicca z pahraničnaj pałasy dva vilenskija biełaruskija dziejačy: b. pasoł Sojmu i zasłužany kulturny dziejač ks. Adam Stankievič i staršynia b. Bieł. Nacyjanalnaha Kamitetu i kulturny dziejač inž. Adolf Klimovič. Aprača taho vysieleny z tej-ža pałasy i šyroka viedamy ks. Uład. Tałočka. — Pahraničnaja pałasa abyjmaje, miž inšym, usiu Vilenščynu.

Zhodna z henym zahadam 27.XII.38 Ks. Adam Stankievič pakinuŭ Vilniu i vyjechaŭ u m. Słonim, kudy duchoŭnyja ŭłady naznačyli jaho kapelanam pry klaštary S. S. Niepokalanak. U hety samy dzień vyjechali z Vilni inž. A. Klimovič i ks. Uł. Tałočka, jaki zatrymaŭsia pakul-što ŭ Biełastoku. Dzie budzie stała prabyvać inž. Klimovič jašče niaviedama.

Na stancyju advodziła ks. A. Stankieviča, a tak-ža inž. A. Klimoviča vialikaja hramada vilenskich biełarusaŭ. Pry raźvitańni nie ŭ adnaho kacilisia ślozy žalu, adnačasna-ž płyli haračyja pažadańni jaknajchutčejšaha pavarotu ŭ Vilniu. Vysialency vyjechali z bukietami žyvych krasak, z bieła-čyrvona-biełymi istužkami, na jakich byli adpaviednyja nadpisy,—ŭručanymi im pradstaŭnikami biełaruskaj sialanskaj moładzi.

**Biełaruskija skaŭty raźvivajucca.** 19.XII 38 u 10-taj Družynie Biełaruskich Skaŭtaŭ u Vilni adbyłasia prysiaha i razdańnie skaŭckich kryžoŭ novym biełaruskim skaŭtam. Na ŭračystaści hetaj byli: kamandant Vilenskaha Skaŭckaha Vokruhu, dyrektar Biełaruskaj Himnazii, pry jakoj henaja bieł. skaŭckaja družyna isnuje, i pradstaŭniki Hurtka Pryjacialaŭ Bieł. Skaŭtaŭ. Novym biełaruskim skaŭtam žadajem hodna spaŭniać skaŭckija pravy i vierna słužyć Biełaruskamu Narodu!...

**Małady biełaruski etnoloh.** Nadoviačy končyŭ Vilenski Universytet były redaktar „Šlachu Moładzi" hram. Marjan Piaciukievič i atrymaŭ tytuł magistra filozofii z haliny etnologii — navuki ab narodnych kulturach. Vitajučy Mgr. M. Piaciukieviča, žadajem jamu płodnaje pracy na nivie biełaruskaje kultury!...

**Niemcy ab Biełarusach.** Niadaŭna ŭ Miunchienie vyjšla pryhožaja knižka A. Sanders'a — „Um die Gestaltung Europas" (Ab pierabudovie Eŭropy). U hetaj knižcy niamała ŭdzialajecca miesca miž inšym i Biełarusam, asobnamu narodu, što znachodzicca ŭ siamji mnohich inšych narodaŭ Eŭropy.

**«Slovansky Prehled»** u № 9 źmiaściŭ druhuju častku i zakančeńnie artykułu P. Łastaŭki ab sučasnaj biełaruskaj litaratury. Treba skazać, što samaje zakančeńnie henaha artykułu nia nadta ŭdałaje.

**Raraty za pamysnaść pracoŭnych biełarusaŭ.** 8 XII.38 u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni adbylisia raraty (nabaženstva) za pamysnaść pracoŭnych biełarusaŭ m. Vilni. Nabaženstva adpraviŭ i skazaŭ adpaviednaje kazańnie Ks. Ad. Stankievič.

**Z vydavieckaje nivy.** Apošnimi dniami ŭ Vilni vyjšli z druku i pastupili ŭ pradažu nastupnyja knižki:

*Ks. Ad. Stankievič*—**Biełaruski Chryścijanski Ruch.** Adbitka z „Chr. Dumki." Vilnia 1938 Knižka maje 280 bačyn. Cana 2 zł.

*Teodor Iljaszewicz* — **Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie.** Vyd. T-va Navukovaje Pomačy im. E. i E. Vrubleŭskich. Jošć heta magisterskaja praca viedamaha biełaruskaha paeta Chv. Iljaševiča ab biełaruskaj drukarni bratoŭ Mamoničaŭ u Vilni (1575-1622).

Jak knižka Ks. Ad. Stankieviča, taksama i kniha Chv. Iljaševiča źjaŭlajucca duža cennymi pracami z haliny biełaruskaje historyi, dziela taho ŭ nastupnych numaroch „Šlachu Moładzi" pastarajemsia krychu šyrej painfarmavać ab ich našych čytačoŭ.

*Dr. Stanisłaŭ i dr. Jadviha Hrynkievičy* — **Rady chvorym i zdarovym.** Knižka III. Adbitka z „Šlachu Moładzi." Vilnia 1938. Bač. 80. Cana 50 hr. — Uvieś matarjał hetaje karysnaje knižki—artykuły ab hygijenie, roznych chvarobach i praktyčnyja lekarskija rady drukavalisia sioleta ŭ „Šl. Moł." Knižku hetu treba mieć u kožnaj biełaruskaj chacie.

*„Садоўніцкая чытанка"*. Pad takim nazovam biełaruski haspadarski časapis „Samapomač" vydaŭ zbornik artykułaŭ ab hadavańni sadovych drevaŭ, ab dahladzie ich i abaronie ad usialakich škodnikaŭ. Zbornik maje 84 bačyny i źmiaščaje 20 vielmi cennych artykułaŭ z haliny sadoŭnictva, siarod jakich jošć miž inšym artykuły viedamaha biełaruskaha sadavoda Ivana Sikory i inž. A. Klimoviča, katory ułažyŭ hety zbornik. Knižka bahata ilustravanaja i kaštuje ŭsiaho 1 zł.

*Ścienki da biełaruskich kalendaroŭ.* Biełaruskaja kniharnia «Pahonia" ŭ Vilni hetymi dniami vydała novyja ścienki da adryŭnych kalendaroŭ z padabiznami biełaruskich paetaŭ, piśmieńnikaŭ, dziejačoŭ, a tak-ža z biełaruskimi krajavidami. Miž inšym jošć ścienki z padabiznami: J. Kołasa, Iv. Łuckieviča, Kastusia Kalinoŭskaha, P. Krečeŭskaha, M. Mašary, Fr. Bahuševiča, M. Nikifaroŭskaha, a tak-ža z repradukcyjami abrazoŭ bieł. mastakoŭ: P. Siarhijeviča i J. Drazdoviča. Jošć ścienki i z scenaj z bieł. baletu „Jurje." Kažnaja ścienka z tektury, z pryhožymi roznakalornymi ŭzorami. Cana ścienak pa 10 hr. Haloŭny skład: Bieł Kniharnia „Pahonia"— Vilnia, Zavalnaja 1.

**Likvidacyja astatkaŭ biełaruskich himnazijaŭ u Łatvii.** Siarod biełarusaŭ u Łatvii chodziać tryvožnyja viestki, što ŭ 1939 h. maje być źlikvidavany biełaruski kamplekt (filija) pry 2-hoj Dziaržaŭnaj Himnazii ŭ Dźvinsku. Paśla hetaha astaniecca ŭ Łatvii tolki adna biełaruskaja pačatkavaja škoła ŭ Ryzie. A treba viedać, što pakul ułada ŭ Łatvii nia była ŭ rukach ciapierašniaha łatvijskaha dyktatara Ulmanisa, biełarusy mieli tam 2 bieł. himnazii, vučycielskija kursy i 47 pačatkavych školaŭ. — Nia hledziačy na varožvja adnosiny łatvijskaje ŭłady da bieł. adradženskaha ruchu, biełarusy ŭ Łatvii ćviorda trymajucca svaje nacyjanalnaści, nie zrakucca jaje nikoli i jak mohuć pracujuć na bieł. adradženskaj nivie.

**Biełarusy ŭ Litvie.** — Bieł. Kult. T-va ładziła 3.XII.38 u Kaŭnasie biełaruskuju viečarynu-bal.

**Biełarusy ŭ Francyi.** Biełaruskaja emihracyja ŭ Francyi prajaŭlaje štoraz bolšuju dziejnaść. Užo paru hadoŭ pracuje siarod biełaruskich emihrantaŭ bieł. kult. arhanizacyja „Chaŭrus." Niadaŭna-ž u Paryžy paŭstała Biełaruskaja Žanočaja Hramada im. Alojzy Paškievičanki—Ciotki. Hramada 11.XII.38 h. ładziła ŭ Paryžy viečarynu z bieł. kancertam, deklamacyjami i tancami.

## Што чуваць

— У Польшчы апошнім часам адбываюцца выбары ў самаўрад, у якіх найбольш мандатаў здабываюць апазыцыйныя партыі. Так напр. пасьля выбараў у самаўрад у местах Варшаве, Кракаве, Лодзі, Пазнані і інш. меншых мястэчках аказалася, што эндэкі здабылі 475 мандатаў, О.З.Н. — 335, П.П.С.—175, Партыя Працы — 93, іншыя — 114, Жыды — 59 і Немцы — 20. На вёсцы ў выбарах у грамадзкія рады найбольш мандатаў здабывае „Стронніцтво Людовэ". У нашым краі беларускія сяляне ня маючы свае арганізацыі да выбараў у самаўрад ішлі і йдуць пад клічам выбіраць мясцовых беларускіх сялян. —У Сойме украінскія паслы падалі праект закону аб аўтаноміі для ўкраінскіх зямель у Польскай Рэспубліцы. Маршалак Сойму праект гэты аднак адкінуў, уважаючы яго ня згодным з Канстытуцыяй.

— **Між Літвой і Польшчай** надовячы падпісаны гандлёвы дагавор. З гэтае прычыны газэты пішуць, што польска-літоўскія адносіны ўсьцяж папраўляюцца.

— У **Чэхаславакіі** пачалі ў прэсе паяўляцца артыкулы аб палажэньні ў Польшчы Украінцаў і Беларусаў і аб іхніх дамаганьнях. Адначасна распаўсюджваюцца там мапы незалежнае Украіны і Беларусі, у якіх закранаюцца граніцы Польскага Гаспадарства. — У некаторых-жа мясцох дайшло да чэскіх антыпольскіх выступленьняў. Дзеля таго польскі ўрад выслаў чэскаму ураду пратэст і дамаганьне зьліквідаваць антыпольскія выступленьні.

—**Італьянска-францускі** канфлікт за калёніі ў Афрыцы разгараецца. На граніцах італьянска-францускіх калёніяў выстаўлена ўжо італьянскае і францускае войска. Пры тым даходзяць трывожныя весткі, што можа наступіць аружнае выступленьне, тым больш, што італьянцы ў прэсе далей атакуюць Францыю, а францускі міністр Бонэ заявіў, што Францыя хутчэй пойдзе на вайну, чымся на ўступкі.

—Паўстаў так-жа новы **японска-савецкі** канфлікт за лоўлю рыбы на Ледавітым Акіяне і ня гледзячы на тое, што дзеля залагоджаньня яго йдуць даўно перагаворы, астаецца ён далей незьліквідаваны.

— Напружанасьць адчуваецца так-жа і ў адносінах **англійска-нямецкіх**, якія паўсталі з прычыны прасьледу ў Нямеччыне Жыдоў і абароны іх ангельскімі палітыкамі. З гэтае-ж самае прычыны пагоршыліся адносіны **Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі з Нямеччынай**, бо і амэрыканскія палітыкі выступалі ў абароне Жыдоў.

— У **Гішпаніі** на Каляды ген. Франко неспадзявана заатакаваў урадаўцаў і адабраў ад іх даволі вялікія абшары. Наступленьне ген. Франкі далей прадаўжаецца.

— **Японія**, хоць забрала ўжо палавіну **Кітаю**, але, як пішуць газэты, чуецца вельмі аслабленай. З гэтае хіба прычыны японскі прэм'ер Коноя высунуў думку замірэньня. Аднак ген. Чан-Кай-Шэк у адносінах да гэтае думкі, асабліва дзеля нявыгадных для Кітаю варункаў міру, заняў становішча няпрыхільнае, хоць у ягонай партыі ёсьць так-жа імкненьні да міру. Адначасна кітайскае войска распачало энэргічнае наступленьне на японскія пазыцыі.

— У **Югаславіі** адбыліся выбары ў парлямант. Перамогу ў іх здабыла ўрадавая партыя прэмера Стояділовіча. *jn.*




### З навукай у нас кепска

*Мір, Стаўпецкі пав.* Аб тым, што вясковая моладзь вельмі мала здабывае сьвятла ў пачатковых школах, ужо ня раз пісалася. Да гэтага вянка хачу дадаць і я пару фактаў. Беларускія бацькі, хоць часта самі мала асьвечаныя, але любяць спраўдзіць веду сваіх дзяцей, а часамі і даведацца ад іх чаго-небудзь новага. І так, самому мне прыйшлося слухаць, як адзін бацька пытаўся свайго сынка, каторы ўжо 7 год хадзіў у школу, чаму гэта мы маем ноч і дзень, або як паўстае дождж? Сынок, хоць шмат вучыўся, аднак не патрапіў адказаць на гэтае простае пытаньне іначай, як тым, што гэта так Бог даў. Гэтым не кажу і не хачу казаць, каб у моладзі выбівалі ў школе веру ў Бога і Яго ўсемагутнасьць. Аднак трэба было-б, каб усё-ж пачаткавая школа давала моладзі паняцьце, што дзень і ноч маем з прычыны абаротаў зямлі каля свае восі і каля сонца і што дождж паўстае з прычыны параваньня вады, награмаджваньня яе ў паветры над намі і пасьляападаньня яе ўніз. *М. Папоўскі.*

### Pieśnia biełaruskaja nie zahinie!

*Zabłudava kala Biełastoku.* U nas ruch biełaruski raźvivajecca dobra. Moładź što-raz čaściej i bolš śmieła pryznajecca da svajho biełaruskaha pachodžańnia. Usie my dobra cenim biel. nacyjanalnyja vartaści i nie dapuścim, kab jany zahinuli. Nie dapuścim tak-ža, kab biełaruskija narodnyja pieśni, jakija šmat chto prysabiečyvaje, zahinuli. Jany buduć zaŭsiody krasavacca jak našyja. *Małady*

### Праясьняецца

*в. Траскуны, Мікалаеўскае воласьці, Дзісьненскага пав.* У нашай вёсцы, як і наагул у цэлай ваколіцы, даволі шмат ёсьць моладзі, але, нажаль, маладое пакаленьне прадстаўляе сабою даволі сумны абраз. П'янства, разбой, гэта бадай выключнае заняцьце нашых хлапцоў. Кніжкай дагэтуль мала хто цікавіўся. Агулам сярод моладзі панавала цёмная ноч. Хто вінаваты ўсяму гэтаму— цяжка цяпер гаварыць. Апошнім аднак часам відаць пэўныя праясьненьні. Некаторыя асобы ахвотна бяруцца чытаць беларускія кніжкі і часапісы. Бяда толькі, што іх замала ў нас ёсьць. Дзеля таго добра было-б, каб беларускія кнігарні наладзілі танную прадажу бел. кніжак. Гэта можа больш зацікавіла-б вёску і дало-б ёй ахвоты шырэй знаёміцца з родным друкаваным словам. *Г. Дзя—шка.*

## Roznaje

**Strašnyja śviatočnyja katastrofy.** 24.XII sioleta pierad Kaladami ŭ Rumunii zdaryłasia strašnaja katastrofa ciahnikoŭ, u časie jakoje žhinuła 103 asoby i 140 raniena. U Złučanych Štatach Paŭnočnaje Ameryki ŭ časie Kaladnich śviataŭ žhinuła 263 asoby, pieravažna z pryčyny samachodavych katastrofaŭ.

**Pamior Vandervelde.** 27.XII.1938 u Brukseli (Belhija) pamior pavadyr II Sacyjalistyčnaha Internacyjanału Emil Vandervelde. Napisaŭ jon mnoha roznych pracaŭ z haliny socyjalohii i palityki. Apošnim časam horača zajmaŭsia jon abaronaj Hišpanskaj Respubliki.

**Śviet dalej zbroicca.** Niamieččyna raspačała budovu novych 16 vajennych karabloŭ. Złučanyja Štaty Paŭnočnaj Ameryki ŭ najbližejšym časie prajektujuć budovu 10,000 samalotaŭ.

# Zdabyvajma ziemlarobskuju aśvietu!

Kraj naš, jak usim dobra viedama, źjaŭlajecca naskroś badaj ziemlarobskim. Na ziamli my z płuham harujem, ziemlarobstva daje nam chleb i ziemlarobstva moža nas navat uzbahacić. Ale kab heta stałasia, treba paznavać tajnicy pryrody, treba ŭmieć dobra haspadaryć, dobra vyrablać i vykarystyvać našuju hlebu. Nichto chiba nie zahnievajecca, bo-ž heta ŭsim viedama i zhodna z praŭdaj, što ziemlarobstva ŭ nas staić nie najlepš, a časta zusim kiepska. Kab było lepš, kab haspadarka naša, ziemlarobstva, davała nam usio svajo bahaćcie, treba vučycca, jak jaho zdabyć. Z žalem adnak treba ścvierdzić, što ŭ hetym kirunku mała što robicca, a najhorš heta toje, što niama naležnaje kolkaści ziemlarobskich škołaŭ z dastupnaj, zrazumiełaj dla našaj moładzi, biełaruskaj vykładovaj movaj, katoryja-b vučyli jak treba kulturna haspadaryć. Praŭda, Vil. Školnaja Kuratoryja załažyła niekalki škołaŭ nižejšaje stupieni ziemlarobskaha pryspasableńnia, a tak ža dla pryspasableńnia viaskovych haspadyniaŭ, adnak jany zaspakoić usich patrebaŭ nia mohuć. Moładź naša, nia majučy ničoha lepšaha i šukajučy śviatła, chočaš nia chočaš idzie i ŭ hetyja škoły, bo lepš choć što-niebudź novaha zdabyć, čymsia ničoha. I biazumoŭna, chto maje mahčymaść trapić u takuju školu, to treba heta rabić, **pamiatajučy, kab jak najbolš zdabyć tam ziemlarobskaje viedy i kab nia hublać svajho nacyjanalnaha biełaruskaha abličča.**

U 1939 h. u Vil. Škol. Vokruzie dziejnyja buduć nastupnyja škoły pryspasableńnia ziemlarobskaha i pryspasableńnia viaskovych haspadyniaŭ, u katorych školny hod pačniecca 15.I.1939 h.:

*U Vilenskim vajavodztvie:*

1. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Łučaju, p-ta Łučaj, Pastaŭski pav.
2. Škoła Pryspasableńnia Viaskovych Haspadyniaŭ u Antovilu, p-ta Vilnia.
3. Škoła Zieml. Prysp. u Bukiškach, p-ta Vilnia.
4. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia u Antanovie, p-ta Baruny, Ašmianski pav.
5. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Opsie, p-ta Opsa, Brasłaŭski pav.
6. Škoła Pryspasableńnia Viaskovych Haspadyniaŭ u Śviancianach.

*U Navahradzkim vajavodztvie:*

7. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia u Hrybavie, p ta Słonim.
8. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasabl. Viaskovych Haspadyniaŭ u Biereźni, p-ta Mir, Staŭpiecki pav.
9. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Ružancy, p-ta Ružanka, Ščučynski pav.
10. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Kušalevie, p-ta Kušaleva, Navahradzki pav.
11. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Bierdaŭcy, p-ta Berdóvka, Lidzki pav.
12. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Łazdunach, p-ta Juraciški, Vałožynski pav.

*U Biełastockim vajavodztvie:*

13. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia ŭ Daŭspadzie, p-ta Rački, Aŭhustoŭki pav.
14. Škoła Ziemlarobskaha Pryspasableńnia Viaskovych Haspadyniaŭ u Kukavie, p-ta i pav. Suvałki.
15. Ziemlarobska-Aharodnickija Kursy (dziavocka-chłapcoŭskija) pry Dziaržaŭnaj Kravieckaj Himnazii ŭ Horadni.

Chto nia maje mahčymaści vučycca ŭ škole, toj pavinien heta rabić samatužna ŭ chacie, pry pomačy adpaviednych knižak i časapisaŭ. Vialikaj padmohaj u zdabyvańni ziemlarobskaj aśviety dla biełarusaŭ jość sielska-haspadarski biełaruski časapis „Samapomač," adrys jakoha: Vilnia, Zavalnaja 1.

Čik.



## *Паштовая скрынка*

**А. Сучку:** Вершы атрымалі і ў меру магчымасьці будзем друкаваць. Беларускае стылістыкі нажаль у Вільні няма. Дужа цешымся, што ўзяліся Вы за працу над сабой.

**М. В. у Латвіі:** За весткі і пажаданьні шчыра дзякуем. Што будзем магчы вышлем.

**Ул. Буську:** „Шлях Моладзі" высылаем Вам праз увесь час акуратна. Дамагайцеся на пошце.

**Ул. Д.:** Грошы атрымалі, часапісы высылаем.

**С. Хмары:** Рэпортажу пакульшто не надрукуем, бо можа ён выклікаць канфіскату.

**U. Kažamiacy:** Spravu biaspraŭnaha adabrańnia Vam premii i zabirańnia „Šlachu Moładzi" pieradamo prakuroru, bo vypisany Vami lehalny časapis jość vašaj pryvatnaj ułasnaściu i nichto nia maje prava jaho zabirać ad Vas.

**A. Čv.:** Za pažadańni i hrošy ščyraja padziaka. Časapisy ŭžo vysyłajucca.

**M. Halasieviču:** Usie niedaručanyja numary vysłali vam paŭtorna. U vašaj spravie padamo ŭ Dyrekcyju Poštaŭ novuju skarhu.

**Я. Бунтару:** Вершы атрымалі, дзякуем. Пакрысе, што будзе можна, будзем друкаваць.

**Г. Дзя—шку:** Вершы, нажаль, слабыя. Добра аднак, што працуеце над сабой.

**V. Mirceviču:** Vieršy słabyja, treba bolš čytać pryhožaje biel. litaratury i pracavać nad saboj. Dobra było-b, kab pisali vy karespandencyi z žyćcia svaje staronki.

**A. Šabł.:** Apaviadańnie słaboje i da druku nie padchodzić.

**М. Загары:** Верш слабы, карэспандэнцыю надрукуем.

**М. П.:** За прысланыя матарыялы шчыра дзякуем, у меру магчымасьці будзем карыстаць.

**Званару:** Вершы слабаватыя, але некаторыя папраўшы пастараемся надрукаваць. У справе супрацоўніцтва ў „Калосьсі" радзім зьвярнуцца у гэтую рэдакцыю беспасрэдна. Жыцьцяпіс прысылайце.

**H. Sierhiejevu:** Kalendary vysłany.

**М. Ж—ну:** Прапагандовыя нумары і „przekazy razrachunkovyja" выслалі.

**К. Мішуце:** Вершы слабыя і да друку не падходзяць. Радзім пазнаць добра беларускую грамату.

**Т. О.:** Згода, у найбліжэйшым часе вышлем Вам адпаведную колькасьць кніжак.



*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*
**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**
„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каэтагэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.
Wydawca „Bielpres". Выдавец: „БЕЛПРЭС". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1. Redaktor J. Najdziuk. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.